ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання 38-ы
№ 30 (2390)
15 красавіка 1969 г АЎТОРАК
Цана 4 кап.

## ДОБРЫЯ СЯБРЫ КНІГІ

У Мінску ў Доме мастацтваў адбылося гарадское свята кнігалюбаў. Яго адкрыў сакратар гаркома камсамола А. Радомскі. Пра добрыя справы мінскіх кнігалюбаў расказаў намеснік дырэктара аблкнігагандлю А. Варфаламееў. У сталіцы рэспублікі звыш 1400 чалавек распаўсюджваюць кнігі на грамадскіх пачатках. Летась яны прадалі рознай літаратуры на 46 тыс. рублёў. Разам з работнікамі аблкнігагандлю энтузіясты ўдзельнічалі ў 88 кніжных кірмашах і 470 выездах на прадпрыемствы і будоўлі сталіцы, што дало магчымасць дадаткова рэалізаваць літаратуры на 100 тыс. рублёў.

Юныя кнігалюбы мінскай школы № 69 распаўсюдзілі сярод насельніцтва 100 бібліятэчак, укамплектаваных ленінскай літаратурай. Актыўна вядуць прапаганду ленінскай літаратуры работнікі Цэнтральнага кніжнага магазіна, камсамольскія арганізацыі Мінскага рэзерва праваднікоў і многія іншыя.

Лепшыя кнігалюбы на вечары былі ўзнагароджаны значкамі «Прапагандыст кнігі», а калектывы — Ганаровымі граматамі ЦК ЛКСМ Беларусі.

## ДАРАГАЯ ДАТА

Гэты дзень — заўсёды ўрачысты, радасны і трошкі журботны.

Урачысты — таму што чым далей, тым яскравей і паўней паўстае перад намі значэнне здзейсненага савецкім народам у Вялікую Айчынную вайну. А воінскі і партызанскі подзвіг Беларусі ў тыя суровыя гады стаў легендай, якая да гэтага часу выклікае і будзе яшчэ доўга-доўга выклікаць захапленне.

Радасны — таму што неяк асабліва выразна відаць нам у гэты дзень, у што ператварылі і ператвараем мы зямлю, якая ў ліпені 1944-га ляжала зруйнаваная і спапялёная.

Журботны — таму што ён напамінае пра тое, чым, якой невымернай цаной заплацілі мы за сваё вызваленне, за свабоду і шчасце.

Дваццаць пяты раз мы будзем адзначаць сёлета Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дваццаць пяты раз на нашых календарах будзе зноў тое самае чысло, якое было, калі скрозь воблакі парахавога дыму ўварваліся на вуліцы Мінска танкі з чырвонымі зоркамі на вежах і над цудам уцалелым Домам урада пад чыстым сінім небам зноў — назаўжды! — залунаў чырвоны сцяг Саветаў.

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі пастанавіў правесці святкаванне гэтай урачыстай даты пад знакам непахіснай вернасці працоўных ідэям Леніна, справе камунізма, гатоўнасці моладзі свята захоўваць і памнажаць баявыя і працоўныя традыцыі партыі і народа.

Камуністычная партыя была натхніцелем і арганізатарам барацьбы і перамог беларускага народа ў Вялікую Айчынную вайну. Закліканыя і згуртаваныя партыяй, больш мільёна беларусаў сталі салдатамі-франтавікамі, звыш 440 тысяч — партызанамі і падпольшчыкамі. «Асабістым прыкладам, мужнасцю і гераізмам камуністы вялі за сабою няскораны народ Беларусі,— гаварыў у дакладзе на ўрачыстым пасяджэнні ЦК КП Беларусі і Вярхоўнага Савета БССР, прысвечаным 50-годдзю БССР і КПБ, кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. Машэраў.— Дзесяць падпольных абкомаў, 185 міжрайкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі, звыш 1 300 пярвічных партыйных арганізацый аб'ядналі больш як 35 тысяч камуністаў. Гэта былі арганізуючыя цэнтры, аператыўныя штабы ўсенароднай барацьбы. Праз грозныя гады вайны Кампартыя Беларусі з гонарам пранесла высокае званне баявога атрада КПСС».

Вось чаму, рыхтуючыся да слаўнай даты вызвалення, плануючы вечары, сустрэчы, выстаўкі, работнікі і актывісты культурна-асветных устаноў павінны асаблівую ўвагу звярнуць на тое, каб у мерапрыемствах гэтых дастойнае месца заняла тэма яднання партыі і народа, тэма вядучай ролі камуністаў у ратных і працоўных подзвігах нашых. Гэта тым больш важна, што святкаванне 25-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прыпадае на год, калі краіна жыве набліжэннем гістарычнага ленінскага юбілею.

Святкаванне 25-годдзя вызвалення ставіць перад культасветустановамі вялікія і пачэсныя задачы. Міністэрства культуры рэспублікі аддало загад, у якім пра задачы гэтыя гаворыцца дэталёва і канкрэтна.

Палацам і дамам культуры, клубам музеям, паркам рэкамендуецца арганізоўваць лекцыі, даклады, гутаркі, тэматычныя вечары, сустрэчы працоўных з удзельнікамі баёў за вызваленне Беларусі і ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны. У кожным горадзе, у кожным раёне ёсць людзі, якім давялося з вінтоўкай на плячы хадзіць па дарогах ахопленай полымем вайны Беларусі. Як многа могуць яны расказаць цікавага і павучальнага, асабліва для моладзі. Вось і знайдзі такіх людзей, культработнік! Памажы ім вызначыць вэ ўспамінах галоўнае, стройна пабудаваць свой расказ.

У апошнія гады крылатыя словы «Ніхто не забыты і нішто не забытае» набылі асабліва шырокую папулярнасць. Самі ветэраны вайны, моладзь, «чырвоныя следапыты» —школьнікі вядуць няспынны, настойлівы пошук, каб не было невядомых герояў, не было безымянных салдацкіх і партызанскіх магіл. Колькі яскравых старонак слаўнага летапісу змагання, колькі выдатных подзвігаў вырваны з забыцця ў выніку гэтых пошукаў! Хай жа ў дні падрыхтоўкі да слаўнай гадавіны вызвалення расказы пра іх, знойдзеныя рэліквіі зоймуць ганаровае месца на стэндах і выстаўках, у клубах, бібліятэках, дамах культуры, музеях. Хай кожная культасветустанова зробіць усё, каб пераканаўча паказаць, што баявыя подзвігі здзяйсняліся не дзе-небудзь за трыдзевяць зямель, а тут, у гэтым самым гарадку, можа, на той самай вуліцы, якую іншы з наведвальнікаў лічыць нецікавай і будзённай.

А як многа трэба зрабіць тэатрам, канцэртным арганізацыям, музычным калектывам! Два з паловай месяцы, што аддзяляюць нас ад 3-га ліпеня — даты вызвалення — тэрмін, вядома, вельмі невялікі. І ўсё-такі можна (і трэба!) паспець зрабіць многае. Хай народзяцца новыя спектаклі, канцэртныя нумары, песні пра подзвіг беларускага народа ў змаганні з азвярэлай фашысцкай навалай. Хай з новай сілай загучыць лепшае з народжанага раней — у рэпертуары нашых творчых калектываў нямала цудоўных работ, прысвечаных гэтай хвалюючай тэме.

Шмат ініцыятывы, харошай выдумкі, цікавых пачынанняў з'явілася ва ўстановах культуры і мастацтва Беларусі ў час падрыхтоўкі і святкавання 50-годдзя БССР і КПБ. Вопыт гэты можа прынесці шмат карысці і дапамогі і цяпер, калі ў планах сваіх мы чырвоным колерам адзначылі лічбу 3-е ліпеня.

## БУДНІ МАСТАКОЎ

### ТЫДЗЕНЬ ТВОРЧЫХ СУСТРЭЧ

Сёлета ў Беларусі традыцыйны Тыдзень выяўленчага мастацтва пачаўся ў абласных цэнтрах 14 красавіка, а ў Мінску пачнецца 18 красавіка.

Наш карэспандэнт папрасіў адказнага сакратара Саюза мастакоў БССР В. Вярсоцкага расказаць пра асноўныя мерапрыемствы веснавога свята мастацтва.

— Гэты тыдзень, — сказаў В. Вярсоцкі, — багаты на выстаўкі. Да ўрачыстага адкрыцця тыдня ў Мінску мы разгорнем у памяшканні ЦК ЛКСМБ вялікую выстаўку фотарэпрадукцый твораў беларускай манументальнай скульптуры. На гэтым вернісажы гледачы сустрэнуцца з вядучымі скульптарамі рэспублікі.

«Вобраз У. І. Леніна ў савецкім выяўленчым мастацтве» — так называецца экспазіцыя рэпрадукцый у сталічнай бібліятэцы «Юнацтва». «Па ленінскім шляху»—дэвіз вернісажа, які адбудзецца ў Магілёве.

Групавыя паказы твораў беларускіх мастакоў наладжваюцца ў Нясвіжы і ў Палацы культуры трактарнага завода ў Мінску. Выстаўкі твораў беларускай графікі адбудуцца ў саўгасе «Краснае» на Маладзечаншчыне, на Бярозаўскай ДРЭС, у мінскім кінатэатры «Навіны дня».

Вялікую мастацкую выстаўку ў Маладзечна наладжваюць мясцовыя майстры пэндзля і разца. У дні тыдня слуцкія аматары мастацтва пазнаёмяцца з творамі М. Даўгялы і У. Сакалова, гродзенцы—з творчасцю Я. Красоўскага. На атамным рэактары АН БССР трымаюць творчую справаздачу графікі Н. і Г. Паплаўскія. Творы сатырычнай графікі будуць экспанавацца ў мінскім кінатэатры «Беларусь», а ў Доме партасветы разгортваецца паказ агітплакатаў.

Мінскі мастацкі салон-магазін наладзіць у дні тыдня выстаўку-продаж вырабаў прадпрыемстваў Мастацкага фонду БССР.

Вызначаны ўжо тэрмін «дзён адчыненых дзвярэй» у майстэрнях мінскіх мастакоў. Жывапісцы і графікі будуць прымаць гасцей 22 красавіка, а скульптары—24.

У дні тыдня беларускія майстры ўрачыста перададуць шэраг сваіх твораў у дарунак прадпрыемствам і музеям.

Сёлетні Тыдзень выяўленчага мастацтва абяцае быць цікавым, змястоўным.

Некалькі дзесяткаў магазінаў, рэстаранаў, кафэ і сталовых афармлена за гэты год мастацкімі майстэрнямі пры Гомельскім аблспажыўсаюзе.

На здымку — мастакі М. Чуешкаў, Р. Каракуз, Н. Сафрончанкава і А. Каламійцаў за абмеркаваннем эскізаў афармлення магазіна «Дары прыроды» ў Гомелі.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.

### Да юбілею Ільіча

Мастакі рэспублікі працуюць над новымі творамі да ленінскага юбілею. Вобразы правадыра і яго паплечнікаў, разнастайныя кампазіцыі на тэмы з жыцця савецкай краіны ў розныя гістарычныя перыяды раскажуць пра гераічны шлях, пройдзены савецкімі людзьмі пад сцягамі сацыялізма—пра мірную працу і ратныя подзвігі.

Нядаўна Міністэрства культуры СССР заключыла шэраг дагавораў з групай мастакоў нашай рэспублікі на стварэнне твораў да слаўнай гадавіны.

Пра гераічную барацьбу беларускага народа ў гады міру і Вялікай Айчыннай вайны раскажуць у сваіх творах мастакі М. Данцыг (карціна «Партызанскі край»), В. Карманаў («Брэст. 1941 год»), Л. Гумілеўскі (скульптурная група «Партызанская сям'я»), Н. Воранаў (карціна аб Савецкай Арміі), П. Крахалёў (карціна «Рудабельская рэспубліка»).

Сённяшняму дню рэспублікі прысвячаюць свае работы В. Цвірко (серыя пейзажаў «Пераўтвораная Беларусь»), В. Сумараў (карціна «Стары дом»), В. Ткачук (серыя лінагравюр «Будаўніцтва Лукомльскай ДРЭС»), Г. Паплаўскі (серыя эстампаў «Рабочыя Бабруйскага шыннага завода»), Л. Лейтман (акварэлі «Сучасны мінскі матыў»).

Скульптурны партрэт Ільіча з металу рыхтуе да юбілею правадыра скульптар А. Заспіцкі.

### СА ШКЛА, ЖАЛЕЗА І ДРЭВА

У майстэрні маладых мастакоў А. Зайцава і Б. Казакова ўздоўж сцяны—вялікі чарцёж. Тонкія вертыкальныя лініі робяць яго падобным на незвычайны графік. Але гэта не графік, а макет пано ў натуральную велічыню, якое мастакі робяць для новага кафэ «Мядок». Пано будзе набрана з тонкіх шкляных палачак прыгожага залацістага адцення. Пры адпаведнай падсветцы яно зазззяе, заіскрыцца цёплым, сапраўды мядовым тонам.

Маладыя мастакі распрацоўваюць эскізы і другой цікавай работы—дэкаратыўнага аздаблення кафэ, якое будзе адкрыта ў прыгожым старым доме на рагу вуліцы Кірава і Валадарскага. У гэтага кафэ пакуль што няма нават назвы. А. Зайцаў і Б. Казакоў мяркуюць вырашыць яго ў выглядзе старадаўняй беларускай карчмы, скарыстаўшы традыцыйныя беларускія дэкаратыўныя матэрыялы — дрэва, кераміку, кованае жалеза, а таксама рэчы старажытнага сялянскага побыту.

### СПРАВАЗДАЧА ГРАФІКА

Вялікую цікавасць у гамяльчан выклікала выстаўка твораў старэйшага беларускага графіка А. Тычыны. Экспазіцыя твораў, выкананых у разнастайнай тэхніцы — лінагравюры, акварэлі, гуашы, тэмперы,—расказвае аб шматгранным жыцці рэспублікі, у тым ліку і Гомельшчыны.

Стваральнай працы савецкага чалавека прысвечаны работы «У порце Гомель», «У затоцы», «Начная змена», «Пагрузка лесу», «На Днепрабугскім канале» і іншыя.

Шэраг лістоў прысвечаны Мінску. Экспануюцца таксама пейзажы Крыма, Прыбалтыкі, ілюстрацыі да кнігі «Белавежская пушча», экслібрысы.

А. ШНЫПАРКОЎ.

### АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАГА ЭКСЛІБРЫСА

*50-годдзю БССР і КПБ прысвяцілі кнігалюбы Баранавіч першы выпуск серыі «Экслібрысы беларускіх мастакоў». Выпуск склалі работы мастака Валянціна Ціхановіча. У прыгожай папцы-альбоме сабраны дзесяць лепшых кніжных знакаў мастака, зробленых для беларускіх дзеячоў культуры і літаратараў.*

*За першым выпускам выйшла ў свет падборка работ старэйшага мастака Беларусі Я. Красоўскага. На чарзе выданне экслібрысаў А. Тычыны, А. Кашкурэвіча, Я. Ціхановіча, М. Шостака.*

*Своеасаблівая анталогія беларускага экслібрыса, выданне якой наладзілі энтузіясты баранавіцкага «Клуба кнігі», ставіць сваёй задачай сабраць і абагульніць усё тое лепшае, што створана беларускімі майстрамі малой графікі.*

В. ПАЛІКАРПАЎ.

### КОНКУРС БУДУЧЫХ МАЙСТРОЎ

«Табе, правадыр!» — пад такім дэвізам у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце аб'яўлены юбілейны ленінскі конкурс-агляд тэарэтычных і творчых работ студэнтаў па жывапісе, графіцы, скульптуры, прыкладным мастацтве.

Кафедры марксізма-ленінізма і жывапісу распрацавалі план конкурсу, які ахопіць больш за 150 тэм—усе этапы жыцця і рэвалюцыйнай дзейнасці правадыра.

Конкурс працягнецца да красавіка 1970 года. Пераможцы будуць узнагароджаны пуцёўкамі для паездкі па ленінскіх мясцінах (Масква, Ленінград, Ульянаўск, Шушанскае), для падарожжаў па Беларусі, а таксама памятнымі падарункамі і ганаровымі граматамі.

### ПРА ЗЕМЛЯКОЎ...

У Слоніме ў адным з клубаў горада адкрылася выстаўка твораў скульптара Івана Міско. На адрыццё выстаўкі прыйшлі рабочыя, інтэлігенцыя, вучні. Прыйшлі і хлебаробы з вёскі Чамяры, у якой нарадзіўся і вырас мастак.

На выстаўцы прадстаўлена некалькі дзесяткаў скульптурных і графічных работ. Наведвальнікі пазнаёміліся з творамі, героі якіх — рабочыя, пісьменнікі, кампазітары, журналісты, вучоныя, грамадскія дзеячы Беларусі.

Асобны раздзел выстаўкі прысвечаны партрэтам землякоў, мастака. Сярод іх акадэмік Андрэй Пракапчук, журналіст Якуб Міско, паэт Валянцін Таўлай і іншыя.

А. ІВЕРС.

### ПРЫХОДЗЬЦЕ Ў «СВІЦЯЗЬ»

Калі вы ўваходзіце ў новы мінскі рэстаран «Свіцязь», адразу вас уражвае вялікае мазаічнае пано, вытрыманае ў спакойных блакітна-шэрых тонах, быццам гэта люстэрка славутага беларускага возера. Ахоўвае яго назачны вадзяны, магутныя елкі глядзяцца ў люстра вады.

Мазаічнае пано задае тон, падрыхтоўвае да сустрэчы са Свіцязянкай, гераіняй балады А. Міцкевіча. Матывы балады скарысталі мастакі В. Новак і Я. Шыбнёў, якія распрацавалі дэкаратыўнае ўпрыгожанне рэстарана.

У стылі вытрыманы мэбля, керамічны і шкляны посуд.

На здымку, які зрабіў У. Кітас, інтэр'ер залы і скульптурнае пано «Свіцязянка».

В. КРАЎЧАНКА.

## «ЛИТЕРАТУРНОЙ ГАЗЕТЕ» — 40 гадоў

«Литературная газета» і яе шматлікія чытачы адзначаюць слаўны юбілей — 40 гадоў назад, у красавіку 1929 года, выйшаў першы нумар «Литературки». Сорак гадоў — сорак гадавых камплектаў. У іх — гісторыя літаратурнага і грамадскага жыцця нашай краіны, летапіс важнейшых падзей, якімі жыў наш народ, летапіс гераічных гадоў. На яе старонках адлюстравалася ўсё тое, чым жылі савецкая літаратура і мастацтва ўсе гэтыя гады, у ёй пабачылі свет многія выдатныя творы савецкіх пісьменнікаў, яна засведчыла няўхільны рост і сталенне шматнацыянальнай савецкай літаратуры, літаратуры сацыялістычнага рэалізму. «Литературная газета» на працягу ўсяго саракагадовага шляху была актыўнай творчай і грамадскай трыбунай савецкіх літаратараў, яна рашуча і паслядоўна змагалася за ажыццяўленне палітыкі партыі ў галіне літаратуры і мастацтва, адстойвала прынцыпы сацыялістычнага рэалізму, вяла барацьбу з упадніцкім буржуазным мастацтвам, расказвала сваім чытачам аб творчасці прагрэсіўных пісьменнікаў усяго свету.

Гэтыя слаўныя традыцыі «Литературная газета» працягвае і сёння. «Литературка» — добры і надзейны сябра і паўнамоцны прадстаўнік літаратур народаў нашай краіны, даўні памочнік і дарадца пісьменнікаў усіх братніх савецкіх рэспублік, яе ведаюць і паважаюць мільёны савецкіх чытачоў.

І таму 40-годдзе «Литературной газеты» адзначаюць, як сваё свята, усе яе сябры.

Горача віншуюць «Литературку» са слаўным юбілеем літаратары Савецкай Беларусі. У прывітальным адрасе праўлення Саюза пісьменнікаў БССР калектыву «Литературной газеты» гаворыцца, у прыватнасці: «Сорак гадоў «Литературка», з'яўляецца рупарам шматнацыянальнай сям'і савецкіх пісьменнікаў, знаходзіцца на перадавой пазіцыі ідэалагічнага фронту, нязменна адстойвае ленінскія прынцыпы ў літаратуры, змагаецца з усім чужым, наносным, што перашкаджае выхаванню новага чалавека — актыўнага будаўніка камунізма. Газета карыстаецца заслужанай папулярнасцю ва ўсіх кутках Савецкага Саюза, у тым ліку і ў нас у Беларусі, адыгрывае велізарную ролю ў камуністычным выхаванні працоўных. Да яе голасу прыслухоўваюцца, яе любяць.

Ад усёй душы жадаем калектыву супрацоўнікаў «Литературной газеты» і яе шматлікаму аўтарскаму актыву новых творчых поспехаў».

Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» таксама горача віншуе і вітае сваю старэйшую сястру — «Литературную газету» — з юбілеем, зычыць ёй новых поспехаў у пачэснай і адказнай службе на карысць шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

## І. Д. ГУРСКІ— ЗАСЛУЖАНЫ ДЗЕЯЧ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за заслугі ў развіцці беларускай літаратуры пісьменніку Гурскаму Ільлю Данілавічу прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР.

## СВЯТА СВАБОДНАЙ ПРАЦЫ

### НА ЮБІЛЕЙНЫМ КАМУНІСТЫЧНЫМ СУБОТНІКУ

Вялікае пачынаецца з малога. 12 красавіка 1919 года камуністы дэпо Масква-Сартавальная, адпрацаваўшы змену, не пакінулі месца работы. «З прычыны таго, што прадукцыйнасць чыгуначнага транспарту знізілася», яны вырашылі працаваць у пазаўрочны час. З 8 гадзін вечара да 6 гадзін раніцы, пры святле факелаў, яны адрамантавалі тры паравозы.

Іх было пятнаццаць чалавек. Ніхто з іх не залічваў сябе ў героі. Усё было проста і будзённа. Напярэдадні яны сабраліся на партыйны сход. На парадку дня сходу было адно пытанне: як дапамагчы краіне, рэвалюцыі, што канкрэтна могуць зрабіць яны, транспартнікі? Адказ знайшоўся хутка: адрамантаваць для фронту некалькі паравозаў. І камуністы стрымалі слова: да раніцы тры паравозы былі гатовы выправіцца ў дарогу.

Тры паравозы... Нават і па тым цяжкім часе гэта было не так ужо і шмат, хоць, канечне, гэтыя паравозы былі вельмі патрэбны. Галоўнае было ў іншым. Галоўнае было ў сутнасці гэтай падзеі. Без падказкі «зверху», без усялякага прымусу, без думкі аб уласнай выгадзе рабочыя-чыгуначнікі памаглі краіне. Хоць крыху, а памаглі. Галоўнае было вось у чым: каб тыя тры паравозы маглі пайсці на фронт, павезці хлеб ці вугаль, свядомасць чалавека павінна была перамагчы, адолець велізарны цяжар мінулага, павінна была адкінуць напластаванні гадоў.

Менавіта таму тое, што зрабілі рабочыя дэпо Масква-Сартавальная, Уладзімір Ільіч Ленін назваў вялікім пачынам. Правадыр і настаўнік працоўных убачыў у ініцыятыве чыгуначнікаў «пачатак перавароту, больш цяжкага, больш істотнага, больш карэннага, больш рашаючага, чым звяржэнне буржуазіі, бо гэта— перамога над уласнай коснасцю, разбэшчанасцю, дробнабуржуазным эгаізмам, над гэтымі прывычкамі, якія пракляты капіталізм пакінуў у спадчыну рабочаму і селяніну».

Ініцыятыва рабочых дэпо Масква-Сартавальная паклала пачатак масавым камуністычным суботнікам (12 красавіка 1919 года прыпала якраз на суботу, на «благавешчанне»), пачатак сацыялістычнаму спаборніцтву. Праз год, у красавіку 1920 года, IX з'езд партыі, якім кіраваў У. І. Ленін, адзначыў, што працоўнае спаборніцтва — магутнейшы сродак уздыму прадукцыйнасці працы, што неабходна ўцягваць шырокія масы працоўных у стваральнае творчае будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.

Іскры вялікага пачыну запалілі полымя ўсенароднага сацыялістычнага спаборніцтва, эстафета якога ідзе па краіне, пераходзіць ад пакалення да пакалення — ад ударнікаў першых савецкіх будоўляў да стаханаўцаў трыццатых гадоў, да герояў працоўных подзвігаў у гады Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага будаўніцтва, да пачынальнікаў руху за камуністычную працу, у якім удзельнічаюць сёння мільёны і мільёны савецкіх людзей.

У мінулую суботу споўнілася 50 гадоў з таго дня, калі рабочыя дэпо Масква-Сартавальная адрамантавалі тры паравозы для адпраўкі воінскіх эшалонаў на Усходні фронт. Працоўныя краіны вырашылі аб'явіць дзень 12 красавіка 1969 года днём Усесаюзнага юбілейнага камуністычнага суботніка і зрабіць усё для таго, каб ён стаў важнай вехай на шляху далейшага развіцця масавага сацыялістычнага спаборніцтва за ўздым прадукцыйнасці працы, за эфектыўнасць грамадскай вытворчасці, за павышэнне працоўнай актыўнасці, наватарскі, творчы падыход да справы, за датэрміновае выкананне заданняў пяцігодкі.

І вось яна прайшла па краіне, юбілейная чырвоная субота, прайшла як усенароднае свята працы. Краіна апранула рабочую спяцоўку, але выглядала святочна. Мільёны і мільёны савецкіх людзей сталі ў гэты дзень за станкі і машыны, занялі свае рабочае месца на будоўлях, выйшлі на вуліцы і плошчы, каб прадэманстраваць вернасць гераічным традыцыям бацькоў, ідэям рэвалюцыйнага пераўтварэння свету, справе вялікага Леніна.

...Масква-Сартавальная. Славутае, цяпер ардэнаноснае дэпо. Радзіма першага камуністычнага суботніка. Дзень 12 красавіка 1969 года тут пачаўся з мітынга. Трыбунай для прамоўцаў стаў гістарычны паравоз ОВ—7024, адрамантаваны паўстагоддзя назад. Пасля мітынгу — работа. На юбілейнай працоўнай вахце — ветэраны і моладзь. Сярод іх — госці: абаронцы далёкаўсходніх рубяжоў Радзімы Героі Савецкага Саюза капітан В. Бубенін і старшы сяржант Ю. Бабанскі. Сёння яны, аднак, не госці. На Ю. Бабанскім — рабочая спяцоўка. Ён падымаецца на цеплавоз. Рамонтная справа — не новая для яго: сённяшні сяржант — былы слесар. Адрамантаваныя на суботніку цеплавозы і электравозы павядуць эстафетныя цягнікі, адзін з якіх пойдзе на радзіму У. І. Леніна — ва Ульянаўск.

...Масква. Крэмль. Праз Спаскія, Баравіцкія і Троіцкія вароты суботняй раніцай сюды прыйшлі сотні людзей — супрацоўнікі Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР, музеяў і іншых устаноў, якія размешчаны ў Крамлі. Яны прыйшлі на крамлёўскі суботнік. Перад пачаткам работы па ўборцы тэрыторыі Крамля ўсе сабраліся ля помніка У. І. Леніну, на гістарычным месцы. Менавіта тут 1 мая 1920 года Уладзімір Ільіч прымаў удзел ва Усерасійскім камуністычным суботніку...

На юбілейны камуністычны суботнік выйшла ўся наша неабсяжная краіна ад краю і да краю — ад Ціхага акіяна да Балтыкі.

На юбілейны камуністычны суботнік дружна выйшлі і працоўныя нашай рэспублікі.

15 звышпланавых машын сышло 12 красавіка з канвеера Мінскага ордэна Леніна трактарнага завода. Калектыў будтрэста № 5 выканаў такі аб'ём работ, за які ў звычайны час была б налічана зарплата звыш дзвюх тысяч рублёў. Гераічнаму В'етнаму адправілі звышпланавыя плоска-шліфавальныя і ўніверсальныя заточныя станкі віцебскія станкабудаўнікі. Па паўтары-дзве нормы выконвалі 12 красавіка будаўнікі Гродзенскага капралактамавага. Закончылі падкормку азімых, пачалі падрыхтоўку глебы пад яравыя культуры, першыя вясновыя барозны праклалі хлебаробы калгаса «Зара» Лідскага раёна...

Кароткія, нібы баявыя, звесткі. Кожнае з іх — сведчанне вялікага працоўнага ўздыму і натхнення, з якімі выйшлі на суботнік працоўныя Беларусі, сведчанне рашучасці нашага народа мацаваць магутнасць сацыялістычнай радзімы, працаваць дзеля яе далейшага росквіту.

Усесаюзны юбілейны суботнік стаў сапраўдным святам, дастойным усенародным падарункам 99-й гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна, важнай падзеяй у падрыхтоўцы да 100-гадовага ленінскага юбілею. Юбілейны камуністычны суботнік застанецца ў гісторыі нашай краіны як прыклад працоўнай доблесці народа ў імя перамогі камунізма.

## ЧЫТАЧ АЦЭНЬВАЕ, РАІЦЬ, КРЫТЫКУЕ

У Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна адбылася канферэнцыя чытачоў газеты «Літаратура і мастацтва». Удзельнікі яе— работнікі бібліятэк вобласці, клубных устаноў, абласнога ўпраўлення культуры і абласнога Дома народнай творчасці — са шчырай зацікаўленасцю гаварылі аб паляпшэнні работы газеты, давалі ацэнку змешчаным на працягу апошніх двух-трох гадоў матэрыялам.

Сваімі думкамі аб асвятленні культурнага жыцця рэспублікі ў газеце падзяліліся загадчыцы абанементаў: Касцюковіцкай раённай бібліятэкі — К. Бязбабіч, Бабруйскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М. Горкага—М. Каган, Глускай раённай бібліятэкі — Р. Чорнагубоўская, метадыст абласнога Дома народнай творчасці А. Голыш, студэнтка 4-га курса бібліятэчнага факультэта Мінскага педінстытута імя М. Горкага А. Лук'янёнак, намеснік дырэктара абласной бібліятэкі П. Касцерава, намеснік начальніка абласнога ўпраўлення культуры З. Лысенка і начальнік абласнога ўпраўлення культуры П. Давыдаў—усяго пятнаццаць чалавек.

У рабоце канферэнцыі чытачоў прыняў удзел загадчык аддзела культуры «Літаратуры і мастацтва» П. Міско. Ён адказаў на пытанні ўдзельнікаў канферэнцыі і расказаў аб планах работы рэдакцыі на сёлетні год.

В. АРЦЕМ'ЕЎ.

